 

# Ніва

ТЫДНЁВІК ГП БГКТ

№ 13 (892) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 1 КРАСАВІКА 1973 г. ЦАНА 60 гр.

## „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-73"

*Пра бельскі хор не раз ужо мы пісалі. Здабыў ён заслужаную славу не толькі ў сваім родным горадзе, але і далёка за яго межамі. Прадстаўнікі яго таксама паспяхова выступілі і на цэнтральным аглядзе «Беларуская песня — 73». Жаночая група бельскага хору, якую бачым унізе, заняла ў ім II месца ў катэгорыі вакальных калектываў. Прыпамінаем, што апошнім часам хор атрымаў назву «Васілёчкі» (калектыў выбраў яе з дасланых нашымі чытачамі прапаноў).*






**1 красавіка гэтага года адбудзецца пленум ГП БГКТ, прысвечаны працы праўленняў аддзелаў БГКТ з актывам. Сёння ў гэтай справе выказваюцца некаторыя актывісты таварыства.**

## У кабінеце не здабыць актыву!

ЯНКА ЦЯЛУШЭЦКІ — СТАРШЫНЯ ПРАЎЛЕННЯ ПАВЯТОВАГА АДДЗЕЛА БГКТ У БЕЛАСТОКУ

Несумненна, на эфектыўную працу аддзелаў БГКТ мае вялікі ўплыў правільная праца праўлення аддзела з шырокім кругам актыву. Праўленне павінна надаваць тон працы ўсім звенням БГКТ. Наш беластоцкі павятовы аддзел з'яднаў сабе ў апошні перыяд, смела можна было б сказаць, ахвярных і з не малой ініцыятывай людзей, на якіх можна лічыць, якія не падвядуць. Яны і згуртоўваюць актыў дзеля шырокай дзейнасці ў вясковых гуртках, а перш за ўсё ў тых мясцовасцях, у якіх пражываюць. Там яны карыстаюцца даверам і аўтарытэтам, там цэняць іх ініцыятыву ў шматлікіх грамадскіх пачынаннях. Яны аказваюць вялікую дапамогу адзінаму штатнаму працаўніку аддзела — сакратару ў правядзенні справаздачна-выбарнай кампаніі, пры падрыхтоўцы конкурсаў, фэстынаў і іншых мерапрыемстваў. У Беластоцкім павятовым аддзеле БГКТ развіваецца дзейнасць, як ніколі дагэтуль. Гэта відаць і па якасці працы, і па колькасці членаў арганізацыі. Няспынны і дынамічны рост нашай арганізацыі падба-

Працяг на стар. 4





*Мікалай Лапух і Яўгеній Балло з Орлі Бельскага павету. I месца ў катэгорыі дуэтаў на цэнтральным аглядзе.* Фота А. Карпюка

## БГКТ ХРОНІКА

18 сакавіка адбыліся агляды тэатральных калектываў БГКТ, арганізаваныя аддзеламі БГКТ і аддзеламі культуры ПРН.

■ У памяшканні ГП з Беластоцкага павету выступала 5 калектываў. Самадзейнікі з Міхалова пад мастацкім кіраўніцтвам Р. Варабея падрыхтавалі драму А. Макаёнка «Трыбунал». У склад калектыву ўваходзілі: А. Ваўрэнюк, І. Ваўрэнюк, С. Палоцкі, Г. Лобач, І.Кузьміцкая, Я. Байчук, І. Полех і А. Самоцік.

■ Жанчыны з Меляшкоў паказалі абрадавую інсцэнізацыю мясцовага вяселля. Удзельнікамі пастаноўкі былі: В. Дарашкевіч, Л. Дарашкевіч, Н. А. Лавіцкая, Я. Марцінчук, М. Дарашкевіч, Г. Сянкевіч, В. Ярмоцік, М. Шусцік, З. Марцінчук, Юлія Домань, М. Казёл, Г. Шыкуць, А. Карповіч, А. Дарашкевіч, Юры Домань, Н. Б. Лавіцкая, М. Казёл. Мастацкі кіраўнік — З. Літвін.

■ Меляшкоўцы В. Дарашкевіч, Г. Сянкевіч, В. Ярмолік, Ю. Домань, Г. Шыкуць і А. Дарашкевіч выступілі таксама з камедыяй М. Кудзелькі «Мікітаў лапаць».

■ Трагедыю Б. Сачанкі «Ноч няволі» ігралі жыхары вёскі Паўлы: В. Мароз (яна мастацкі кіраўнік), А. Мароз, Г. Ануфрыюк, Л. Харытонюк, Ю. Аляксеюк, В. Андрэюк, В. Галубоўскі, М. Нікіцюк, П. Бачынскі і А. Галубоўская.

■ Тэатральны калектыў паэзіі з Гарадка пад кіраўніцтвам Н. Мушынскай паставіў паэму П. Глебкі «У тыя дні». Калектыў складаўся з Н. Мушынскай, І. Кардаш. Л. Куц, Т. Кандрусік, Н. Парэмбскай, С. Самойліка, М. Траскоўскай, М. Патэльскай і Л. Мялешка.

■ На аглядзе ў Гайнаўцы выступілі чатыры калектывы. Самадзейнікі з Дабрыводы і Кляшчэль падрыхтавалі п'есу В. Вольскага «Несцерка». Склад калектыву наступны: Н. Стаськевіч, Н. Маркевіч, М. Маркевіч, М. Клімовіч, К. Купрыцюк, Марыя Бліщчук, І. Рачкевіч, А. Сідарук, М. Зіневіч, М. Яўдосюк, П. Маркевіч, Мікалай Бліщчук, Р. Клімовіч, Р. Маркевіч, В. Маркевіч, А. Клімовіч, А. Ліпінская, К. Яўдосюк, А. Зіневіч, А. Маркевіч, П. Вярэмчук, Н. Вярэмчук, (усе яны з вёскі Дабрывода), С. Місеюк (ён мастацкі кіраўнік), Ю. Абрамовіч, М. Пракапюк і Б. Абрамовіч (яны з Кляшчэль).

■ Самадзейнікі з Ласінкі выступалі з трагедыяй К. Чорнага «Ірынка». Ігралі: М. Мікось, С. Паскробка, У. Мінько — кіраўнік, М. Сілівонюк, І. Шварц, А. Хадак, М. Станька і М. Грэсюк.

■ Моладзь са Скупава паставіла п'есу «Міхалка». А вось выканаўцы: Н. Сакоўская — кіраўнік, Д. Кісялеўская, І. Дрозд, В. Русак, Р. Кісялеўскі, С. Навіцкі.

■ «У Ціхім кутку» А. Рылько падрыхтавалі жыхары Сухавольцаў: А. Божка, — кіраўнік, Т. Якубоўская, Т. Шклярук, Б. Нігерэвіч, Р. Місеюк, П. Сідорук, С. Казімерук, Я. Герасімюк.

■ На аглядзе ў Бельску выступілі толькі два калектывы. Сакі падрыхтавалі «10 гектараў» Я. Блізнюка і У. Цілюлькі. Ігралі ролі — Анна Лазовік (кіраўнік), В. Купрыяновіч, Я. Паўлючук, Я. Ясвіловіч, П. Лапінскі, Х. Койлюк, А. Сідарук і А. Шаховіч.

■ «Суд» У. Галубка выканалі самадзейнікі з Мокрага: І. Нікіцюк — кіраўнік, Я. Трафімюк, І. Варабей, М. Нікіцюк, А. Нікіцюк, М. Пракапюк і Ю. Садоўскі.

■ Семяціцкі аддзел БГКТ арганізаваў агляд тэатральных калектываў у вілінаўскім доме культуры. Вілінаўцы ігралі «Трыбунал» А. Макаёнка. Склад калектыву наступны: А. і Н. Мартыновічы — мастацкія кіраўнікі, А. Бандарук, А. Брык, У. і З. Давідовічы, М. Нікалаюк, В. Казачук і А. Власюк.

■ Стоўбцы пад кіраўніцтвам Ю. Тарэбун падрыхтавалі п'есу Ю. Геніюша «Выважажыла», а самадзейнікі з Верпаля «Ветэрынар паняволі». Прозвішчы ўдзельнікаў тэатральных калектываў са Стаўбцоў і Верпаля надрукуем у іншым нумары.

■ У фінальным аглядзе выступілі самадзейнікі з Паўлаў, Меляшкоў, Гарадка, Сакоў, Кляшчэль-Дабрыводаў і Вілінава. (мх)

ГАЙНАЎКА — МАЛАЙЦЫ!

## БЕЛАРУСКАЯ КАРЧМА

Непадалёку ад Гайнаўкі, у прыгожым кутку Белавежскай пушчы будзе пабудавана стылізаваная на старых народных узорах беларуская карчма. З такой ініцыятывай выступіў нядаўна гайнаўскі аддзел БГКТ. Каштоўную ініцыятыву, якая выходзіць насустрач ідэі турыстычнага развіцця Беласточчыны, з ходу падтрымалі мясцовыя і ваяводскія ўлады. Ужо спецыялісты працуюць над архітэктурным праектам. Між іншым, выкарыстоўваецца народная разьба. У мастацкім афармленні вонкавага і ўнутранага выгляду будынка паслужаць таксама тэмы з пушчанскіх легендаў.

Але не толькі выгляд карчмы будзе нагадваць сівую старыну. Гастранамічны бок справы таксама будзе пастаўлены на народных мясцовых узорах. Можна будзе тут з'есці, напрыклад, тушоную зубравіну, запіваючы яе напіткам, настоеным на сарака пушчанскіх карэннях. Усё гэта ў адпаведным настроі: з абслугай у старадаўняй вопратцы, пры адпаведнай музыцы і песнях у выкананні народнага калектыву.

Тут яшчэ трэба прыдумаць многа чаго. Таму арганізатары звяртаюцца з просьбай да нашых чытачоў: дасылайце свае праекты і прапановы: як, на вашу думку, павінна выглядаць наша карчма, што ў ёй павінна быць (патравы, іх назвы і г.д.). Урэшце аб'яўляем конкурс на назву самой карчмы, а таксама шукаем карчмара, афіцыянтак, павароў і членаў мастацкага калектыву.

Пісьмы ў гэтых справах шліце ў нашу рэдакцыю, паколькі мы ўзялі шэфства над гайнаўскім пачынаннем і абяцалі сваю дзейсную падтрымку ў арганізацыйных справах. П. К.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"



 

 

# ◇ Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі

 СВЕТ  БССР  ПОЛЬШЧА  ВАЯВОДСТВА

### АДКРЫЦЦЁ САВЕЦКІХ ВУЧОНЫХ

Вывучаючы ўздзеянне ўдарных хваль на арганічныя рэчывы, група савецкіх вучоных адкрыла невядомую раней з'яву — палімерызацыю на ўдарных хвалях. Гэта значыць, што простыя малекулы імгненна злучаюцца ў складаныя палімерныя ланцугі, якія складаюцца з дзесяткаў тысяч звенняў.

Адкрытая савецкімі вучонымі новая з'ява істотна пашырае кола практычнага выкарыстання ўдарных хваль.

### ТЭРАР ГРЫВАСА

На Кіпры працягваюцца правакацыйныя вылазкі прыхільнікаў генерала Грываса, які выступае за «энозіс» — далучэнне Кіпра да Грэцыі. Усяго за тыдзень (з 13 па 18 сакавіка) у розных кіпрскіх гарадах адбылося больш чым 30 выбухаў.

Новая хваля тэрарыстычнай актыўнасці ўзброенага падполля на Кіпры, адзначае друк і інфармацыйныя агенцтвы, сведчыць аб тым, што Грывас імкнецца стварыць на востраве абстаноўку хаосу. Грывас імкнецца да таго, каб Макарыёс сышоў з палітычнай арэны і ўступіў сваю прэзідэнцкую пасаду чалавеку, які будзе весці барацьбу за «энозіс».

### КАНТРОЛЯ НАФТАВЫХ АПЕРАЦЫЙ

Прэм'ер-міністр Ірана Амір Хавейда заявіў, што пачынаючы з 21 сакавіка гэтага года Іран будзе поўнасцю кантраляваць усе нафтавыя аперацыі ў краіне.

Ён падкрэсліў, што ў адпаведнасці з новым пагадненнем паміж Іранам і міжнародным нафтавым кансорцыумам, членамі якога з'яўляюцца нафтавыя кампаніі ЗША, Англіі, Францыі, Галандыі, Ірана, прадстаўляюцца ўсе правы на ўласнасць, кіраванне і эксплуатацыю нафтавых установак кансорцыума, якія знаходзяцца на іранскай тэрыторыі.

### СЕСІЯ ПА КОЦІКАХ

У Токіо адкрылася чарговая сесія камісіі па коцiках у паўночнай частцы Ціхага акіяна. У рабоце сесіі прымаюць удзел дэлегацыі Японіі, Савецкага Саюза, ЗША і Канады. Сесіі камісіі праводзяцца штогод, ад таго часу, калі ўрады СССР, Японіі і Канады падпісалі канвенцыю адносна захавання паголоўя коцікаў у паўночнай частцы Ціхага акіяна.

Абмяркуюцца тут таксама пытанні захавання і рацыянальнага выкарыстання рэсурсаў коцікаў, дасягнення максімальна ўстойлівай іх здабычы ў паўночнай частцы Ціхага акіяна.

### ПАДСКОЧЫЛІ ЦЭНЫ НА МЯСА

Толькі ў лютым цэны на мяса падскочылі ў ЗША на 11,5 працэнта. Няспынна ўзрастаюць цэны на ўсе харчовыя тавары. Гэта вымушаны быў пацвердзіць і такі кампетэнтны орган амерыканскага ўрада, як савет па пытаннях кошту жыцця. У выніку месячнага даследавання прадуктовага рынку пацверджана, што цэны на прадукты харчавання цяпер павялічваюцца самымі высокімі тэмпамі за апошнія два дзесяцігоддзі.

(ак)

### МАТАЦЫКЛЫ З МІНСКА

Распачалася вясна, дык варта ведаць, што сёлета Мінскі матавелазавод пачне выпуск новага матацыкла М-3-111 з рабочым аб'ёмам рухавіка 125 кубічных сантыметраў. Гэта будзе прынцыпова новая мадэль, якая істотна адрозніваецца ад сваіх папярэднікаў, што сыходзяць цяпер з галоўнага канвеера. Зменіцца вонкавы выгляд машыны, яе форма стане больш падобнай на спартыўны варыянт. Пры параўнальна невялікім рабочым аб'ёме рухавіка матацыкл будзе мець магутнасць 9,5 конскіх сіл і скорасць больш чым 90 км у гадзіну.

### МІЛЬЁННАЯ ТОНА НАФТЫ

Ужо ў гэтым годзе рабочыя ўпраўлення «Беларуснафта» паднялі з нетраў зямлі мільённую тону нафты. Працуюць яны ўсё больш выдатна. Вось у 1971 годзе на здабычу аднаго мільёна тон нафты спатрэбілася затраціць амаль тры месяцы. А ў гэтым годзе гэты тэрмін скараціўся на адзін месяц.

Беларускія нафтавікі паскараюць разведку запасаў нафты і скарачаюць тэрміны ўводу ў эксплуатацыю новых месцанараджэнняў «чорнага золата». У мінулым годзе, для прыкладу, былі адкрыты Паўднёва-Асташавіцкае і Залатухінскае месцанараджэнні.

### НОВАЯ РАСНА

Вёска Расна, што ў Камянецкім раёне Брэсцкай вобласці, знаходзіцца непадалёку ад польска-савецкай дзяржаўнай граніцы. Старэйшыя жыхары многіх вёсак Нурэцкай і Мельніцкай гмін у Сямяціцкім павеце добра памятаюць гэтую вёску, бо часта яе наведвалі, калі ездзілі на кірмаш у Высокае.

Цяпер аднак Расны яны не пазналі б. Вёска стала цэнтрам калгаса «Савецкая Беларусь» і карэнна змяніла свой воблік. На месцы даўнейшых хутароў пабудаваны новы пасёлак з прыгожымі двухпавярховымі цаглянымі дамамі. На цэнтральнай плошчы знаходзіцца калгасны дом культуры, будуецца сучасны гандлёвы цэнтр, дзе пад адным дахам размесцяцца магазін па продажы прамысловых і харчовых тавараў, швейныя і шавецкія майстэрні, фотаатэлье, цырульня, гасцініца, кафе і рэстаран. У Расне працуе музычная школа.

### СВЕТЛАГОРСКІ ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ

У Светлагорску здадзены ў карыстанне Палац культуры хімікаў. Светлы будынак са шкла і бетону мае прасторную глядзельную залу з вялікай сцэнай, памяшканні для творчых выставак, бібліятэку, вялікую спартыўную залу і іншыя пакоі для культурных заняткаў.

### ВУЛІЦА ДРУЖБЫ

У горадзе Рэчыцы пракладжана новая вуліца, якая атрымала назву «Вуліца Дружбы». Нядаўна на гэтай вуліцы здадзены ў карыстанне першы жылы дом, у якім пасялілася 90 сем'яў шматнацыянальнага калектыву нафтавікоў, будаўнікоў і работнікаў розных установ.

(вр)

### КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ПОЗНАНІ

Адбылася справаздачна-выбарная канферэнцыя ПАРП у Познані. Прысутнічаў на ёй І сакратар ЦК ПАРП, які ў той час быў з візітам у Велькапольшчы і наведваў рад мясцовасцей і гаспадарак. Познанская канферэнцыя падкрэсліла факт, што краіна вымагае ад сваіх грамадзян вельмі добрай работы, поўнага аддання прафесіянальнай і грамадскай працы, шырокай актыўнасці, творчай ініцыятывы, пераўтварэння ў жыццё дасягненняў навукі і тэхнікі.

На канферэнцыі выступіў Эдвард Герэк. Яго познанская прамова адбілася шырокім рэхам у краіне і за мяжой. Ён сказаў: «Не можам чакаць, што тыя, якія робяць дрэнна, самі паправяцца. Трэба вучыць, вымагаць і дамагацца, а калі трэба і караць — за марнатраўства, за непарадкі, за няхлюйства, за занядбанне і за ўсё, што прыносіць шкоду грамадству».

І сакратар падкрэсліў велізарную ролю людской гаспадарнасці і працавітасці.

### СТАНІСЛАЎ КАВАЛЬЧЫК — МІНІСТР УНУТРАНЫХ СПРАЎ

Рада Дзяржавы па прапанове прэм'ера ўрада ПНР назначыла С. Кавальчыка міністрам унутраных спраў ПНР С. Кавальчык — член ЦК і пасол у Сейм, у апошні час быў сакратаром ЦК ПАРП.

### ВІНШАВАННІ З ПОЛЬШЧЫ ПРЭЗІДЭНТУ ЧЭХАСЛАВАКІІ

У тайным галасаванні абодвух палатаў чэхаславацкага парламента Людвіг Свабода быў аднагалосна выбраны прэзідэнтам Чэхаславакіі на другую пяцігадовую кадэнцыю. У сувязі з яго выбраннем старшыня Рады Дзяржавы ПНР праф. Генрык Яблонскі пераслаў Л. Свабодзе віншавальную тэлеграму.

### НОВЫЯ ПРАФЕСАРЫ

У Бельведэры — сядзібе Рады Дзяржавы ў Варшаве адбылася чарговая ўрачыстасць уручэння прафесарскіх намінацый вучоным розных спецыяльнасцей. Многа прафесарскіх званняў атрымалі вучоныя ў галіне тэхнікі, эканомікі і сельскай гаспадаркі з розных ваяводскіх навучальных цэнтраў і інстытутаў. З Беластоцкай медыцынскай акадэміі званне звычайнага прафесара атрымаў Караль Булюк.

### ПОЛЬСКАЯ ПРАПАНОВА Ў ХЕЛЬСІНКАХ

На Хельсінскай канферэнцыі вядуцца размовы аб падрыхтоўцы да еўрапейскай канферэнцыі бяспекі і супрацоўніцтва. Польская дэлегацыя на гэтую канферэнцыю ў мінулым тыдні ўнесла істотную, добра прынятую ўсімі дэлегатамі прапанову, каб стварыць рабочую групу, якая апрацоўвала б фінансавы і тэхнічны бок будучай канферэнцыі бяспекі.

### КРАЁВАЯ ЯРМАРКА «ВЯСНА-73»

У Познані закончылася веснавая краёвая ярмарка прамысловых і спажывецкіх тавараў. Была гэта 31-ая такая ярмарка. Гандаль купіў ад прамысловасці тавараў на суму 47 мільярдаў злотых. Гэта на 12 мільярдаў больш, чым у мінулым годзе.

(вл)

### СУПРАЦОЎНІЦТВА

Паміж Беластоцкім ваяводствам і Варшаўскім універсітэтам добра развіваецца супрацоўніцтва. Гэтымі днямі адбылася сустрэча кіраўнічых кадраў нашага ваяводства з выкладчыкамі Варшаўскага універсітэта. На сустрэчы прысутнічалі І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі, старшыня Прэзідыума ВРН З. Спрыха і рэктар Варшаўскага універсітэта праф. др З. Рыбіцкі. Гэта было падсумаванне цэлага цыклу сустрэч, якія былі часткай працэсу ўдасканалення кваліфікацыі кіраўнічых кадраў і паляпшэння дзейнасці арганізацыйных адзінак. На сустрэчы падкрэсліваліся і іншыя формы супрацоўніцтва. Нядаўна па просьбе Прэзідыума ВРН эканамічна-адміністрацыйнае аддзяленне філіялу Варшаўскага універсітэта ў Беластоку пачало весці даследаванні ў розных галінах дзейнасці гмінных рад народаў.

### СПРАВЫ АХОВЫ ПАРАДКУ

Нядаўна адбылася нарада начальнікаў гмін і старшынь прэзідыумаў ПРН. Парушаліся справы аховы публічнага парадку і бяспекі ў нашым ваяводстве. Галоўная мэта нарады, як зазначыў сакратар Прэзідыума ВРН Г. Зажэцкі, дапамагчы начальнікам гмін утрымоўваць публічны лад і парадак, сістэматычна ўмацоўваць сацыялістычную законнасць. Старшыня Прэзідыума ВРН З. Спрыха звярнуў увагу прысутных на неабходнасць цеснага супрацоўніцтва камендантаў пастарункаў МО з начальнікамі гмін, на ўзмацненне аховы грамадскай маёмасці ад крадзяжу, марнатраўства і пажару. Неабходна больш канкрэтна змагацца з алкагалізмам, прымушаць працаваць тых, што да гэтай пары пазбягалі сталага занятку. Больш трэба звяртаць увагі на бяспеку ў дарожным руху.

### ДЛЯ СВАЙГО РЭГІЁНУ

На чарговым пленарным пасяджэнні Прэзідыума ВК ФАН ацэнены быў ход і эфекты мінулагодніх конкурсаў «Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная», «Жыхары свайму гораду» і «Майстар гаспадарнасці», а таксама шэраг іншых грамадскіх акцый. Конкурсы далі шмат карысці нашаму грамадству і будуць працягвацца далей. Жыхары нашага ваяводства актыўна ўключыліся ў збор грошай на фонд аховы здароўя.

### АГУЛЬНАПОЛЬСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

У Беластоку адбылася першая ў краіне канферэнцыя лекараў — кансультантаў Таварыства ўсеагульных ведаў (ТВП). Удзельнікі канферэнцыі супрацоўнічаюць з ТВП, дапамагаючы распаўсюджваць і папулярызаваць медычныя веды. У рамах шырокага медычнага універсітэта лекары-спецыялісты праводзяць лекцыі аб найбольш цікавых справах медыцыны: аб прафілактыцы рака, жаночых хвароб, аб ролі і функцыі службы здароўя і іншыя.

### АГЛЯД САВЕЦКАЙ ПЕСНІ

24 і 25 сакавіка ў Беластоку адбываўся ваяводскі агляд савецкай песні. У XII Агульнапольскім конкурсе савецкай песні выступяць пераможцы ваяводскага агляду Бэата Грахоўская з Беластока, Юрка Варановіч з Саколкі і Ян Панасевіч з Алецка.

(яч)




**Niedziela 1.IV.**
7.40 Program dnia. 7.45 TV Kurs Rolniczy. 8.20 „Przypominamy, radzimy". 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 TELERANEK. 10.20 „Londyńskie ptaki" — film dok. ang. („Świat, który nie może zaginąć") odc. I. 10.45 Gra Wojskowa Orkiestra Garnizonu Kielce. 11.15 „Piórkiem i węglem — w starym kinie". 12.15 Dziennik. 12.30 „Przemiany". 13.00 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata: Polska — Szwecja. W I przerwie ok. 13.30 Wiadomości sportowe. W II przerwie ok. 14.30 Losowanie numerów Totolotka. 15.15 Dla dzieci: W. Chotomska — „Dlaczego ciele ogonem miele". 15.55 Reportaże. 16.25 „Kryteria". 16.40 „To jest TOTO" — program rozr. 17.40 „Mistrz czarnej sztuki" („Znaki zapytania"). 18.20 „Piosenka dla Ciebie". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Cudzoziemka" — film pol.-franc. („Wielka miłość Balzaka") odc. II. 21.00 PKF. 21.10 „Melodie Wielkiego Ekranu" — „Z trzydziestką na finiszu". 22.10 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 2.IV.**
12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 15.20 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec" i „Obserwatorium". 17.25 „Echo stadionu". 17.55 TV Kurier Olsztyński. 18.10 „Oferty". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: A. Gribojedow — „Mądremu biada". 21.40 „Galeria nad Dunajem" — rep. film. 22.10 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.35 „Ci wspaniali..." — grają W. Kisielewski i M. Tomaszewski (duet fort.).

**Wtorek 3.IV.**
10.00 „Cudzoziemka" — film pol.-franc. ((„Wielka miłość Balzaka") odc. II. 10.55 Dla szkół: (kl. VI Język polski — „Józef Chełmoński". 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — T. Różewicz „Kartoteka". 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Ernest Hemingway". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.10 „14 minut w rytmach kubańskich". 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 POLITYKA DLA WSZYSTKICH. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Los człowieka" — film fab. radz. 21.45 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata w grupie A Polska — Zw. Radziecki. 22.55 Dziennik. 23.20 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 23.55 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin.

**Środa 4.IV.**
8.15 „Los człowieka" — film fab. radz. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Rok zwycięstwa". 10.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Wieś i miasto". 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Indukcja elektromagnetyczna". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 14.00 „Wybieramy zawód". 15.30 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Latający Holender — Szkoła Jungów 2000". 17.10 Dla dzieci: L. Górski — „O zajączku, który nie umiał zliczyć do trzech" — widowisko Państw. Teatru Lalek „Tęcza" w Słupsku. 17.35 „Informacje, Towary, Propozycje". 17.55 „Sylwetki X Muzy" — Damian i Maciej Damięccy. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Praca, za którą nie zapłacono" — program publ. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Yuma" — film fab. USA (western). 21.20 „Świat i Polska". 22.00 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata w grupie A Finlandia — Polska. 23.10 Dziennik.

**Czwartek 5.IV.**
7.50 „Yuma" — film fab. USA (western). 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Zasady". 9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — „Adam Asnyk". 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — „Bolesław Prus". 11.55 Dla szkół: (kl. III i IV lic.) Język polski — „Władysław Broniewski". 14.00 Matematyka w szkole: „Mnożenie i dzielenie liczb" cz. III. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.30 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata w grupie A Czechosłowacja — Zw. Radziecki. W I przerwie: PKF. w II przerwie: TV Kurier Mazowiecki. 19.45 „Przypominamy, radzimy". 19.50 Dobranoc. 20.00 Dziennik. 20.30 „Na torze czeka morderca" — film fab. czechosł. 22.00 „Ekspres nr. 23". 22.30 Dziennik. 22.55 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 23.30 TV Technikum Rolnicze: Zoologia.

**Piątek 6.IV.**
8.20 „Na torze czeka morderca" — film fab. czechosł. 9.55 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Wychowanie techniczne — „Nowe zastosowanie techniki". 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Nie ma praw bez obowiązków". 11.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Przysposobienie obronne — „Szkolnictwo wojskowe". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.20 i 23.30 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.30 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata w grupie A Polska — NRF. W I przerwie: „Nie tylko dla pań". W II przerwie: TV Kurier Warszawski. 19.50 Dobranoc. 20.00 Dziennik. 20.30 Program rozrywkowy. 21.00 Panorama Tygodnia. 21.40 Teatr TV: M. Storn Jameson — „Dom nad Loarą". 23.00 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Sobota 7.IV.**
9.15 „Vendetta" — film ang. („Święty"). 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Wzrok". 14.20 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 14.55 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Konkurs pięciu milionów". 17.40 „Z kamerą wśród zwierząt". 18.10 „Turystyka i wypoczynek". 18.35 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Vendetta" — film ang. („Święty"). 21.50 Dziennik. 22.10 „Tryptyk szkocki" — program rozr. 23.05 Wiadomości sportowe i sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata w grupie A Szwecja — Zw. Radziecki.

ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 30 marca**
7.45 Film seryjny. 9.00 Spotkanie z kosmonautą. 10.30 Szkoła szachowa. 13.45 Program dnia. 13.50 Film animowany. 15.20 Spektakl centralnego teatru dla dzieci. 17.00 Koncert uczestników twórczości amatorskiej. 19.00 Czas. 19.30 c.d. koncertu.

**Sobota, 31 marca**
7.00 Program dnia. 7.30 Mozaika muzyczna. 7.45 Przegląd międzynarodowy. 8.45 Film dokument. 9.45 Filmy animowane. 10.45 Teatr literacki. 11.30 Artysta ludowy ZSRR Ł. Rachlenka. 12.45 Film dokument. 13.10 Film fab. 14.20 Tańczy artystka ludowa ZSRR I. Kołpakowa. 15.00 W świecie zwierząt. 16.20 „Piosenka — 73". 17.00 Czas. 17.25 Hokej. ZSRR — NRF. 20.45 Hokej. Czechosłowacja — Polska. 3 tercja.

**Niedziela, 1 kwietnia**
7.00 Program dnia. 8.30 Kiosk muzyczny. 9.15 Koncert życzeń. 11.00 Republikański konkurs młodych śpiewaków. 12.25 Filmy animowane. 13.00 Klub filmowy. 13.55 Hokej. Polska — Szwecja. 16.10 Film dokument. 17.20 Koncert piosenki radzieckiej. 17.45 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Program muzyczny. 20.30 Film animowany.



 

* * *

калі крыніцу
выкапаем ў полі
дык для ўсіх людзей і птахаў
бо наша доля
у агульнай долі
без плоту
без дзяржаў
без страху
людзям дзяўчына аддамо мы воды
няхай растуць яны у сінь
як дрэвы
у твар адкрыта глянем мы
любому году
дамо напіцца ўсім на свеце спевам
бо без людзей
не можам быць людзьмі мы
і толькі птахі
могуць даць крылістасць
Зямля — адна вялікая радзіма
крыніц
і дрэў
і нас з табой чыстая

*Алесь Барскі*



## ПРЫГОДЫ

*Месяц закінуў сеці*
*Ў возера сонных прыгодаў.*
*Ноч нацягнула песню —*
*Затрапяталі зоры.*

*Сляды спатканняў на бераг*
*Лодкай плывуць таямнічай,*
*А сэрца б'ецца надзеяй,*
*Чую: прыгоды клічуць.*

*Ул. Гайдук*

## ◆ ЗАХАД ◆

Як ні стараюся запомніць
На ўсё жыццё да драбніц
наш захад сонца,
моцныя фарбы, вогненны мяч,
лёгкія хмары, полымя траў
і неба блакіт, неба агонь,
ды дзіўны спакой адыходзячага дня,
запомніць усё ж не магу аніяк,
як сон, што парвецца раптоўна.

*Вераніка Леанюк*




# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 171


## ◆ ТРЫПЦІХ ◆

*С. Р-ку*

*Накцюрн начны дрэў апусцелых,*
*Бы з-пад зямлі магільны вецер*
*Са свістам мчыць ў сваёй карэце*
*Змарозіць шчэ жывое цела.*

*Пустая праменада зноў,*
*Счарнелых лісцяў шапаценне.*
*Начны шпацыр мой,*
*Без слоў —*
*Угамоненае задуменне.*

* * *

*П'ем з пазнання крыніц*
*прычыны*
*і ўсё яшчэ вучымся жыць.*
*Друг, пачуй, калі прыйдзе роздум!*
*Быццам родная пушча*
*шуміць*
*гэты горад, другая Айчына,*
*дзе загубім усю радасць*
*і розум.*
*Ты мяне не давеў да канца*
*і толькі ўжо*
*не шкадуй даверу.*
*— Проста ўніз я міжвольна*



*зваліўся.*
*Ці змагу зноў падняцца?*
*— Не ведаю.*
*«Як ікона Рублёва ты», —*
*— Я ў гэтыя словы ўсё верыў.*
*Ты прыпомніўся мне*
*ў сне пра дружбу,*
*Як няўлоўная радасць растаў.*
*Без здзіўлення прымаеш усё,*
*Ты шмат больш, чым я, зразумеў.*
*Бы ў восень жыцця, застыў,*
*у разважнасці рамы*
*асеў.*
*Ты не мрыйнік ужо,*
*як калісь...*
*Пра сябе ты ўжо забыўся,*
*і не ведаеш, мабыць,*
*чаго хацеў.*

* * *

*Не ведаю я, чаго хачу,*
*Не ведаю, што ўмеў, хацеў...*
*Іду яшчэ, цень валачу.*
*Жыву яшчэ, не звар'яцеў.*
*Пайду, адбіты цемнатой,*
*са зжоўклым лісцем у далоні.*
*Начны, нязменны шпацыр мой,*
*мае ўцёкі — без пагоні.*

*Кастусь Бандарук*

## МАМЕ

Іду да цябе, Мама...
Дарогай іду дахаты,
набліжаюся,
сэрца дрыжыць
і чагось чакае,
вочы глядзяць
і чагось спадзяюцца.
Мама,
гэта да цябе
сэрца рвецца,
цябе вочы выглядаюць.
Мама,
Ты ідзеш
на сустрэчу са мной,
цалуеш мяне.
Я пад шчасця
цяжарам
плакаць хачу,
абнімаць цябе
і пацалункамі
дзякаваць
табе
за пацалункі
твае.

*Ніна Гаўрылюк*

* * *

*Пялёсткі чорнай*
*ліліі*
*паклалі смутак*
*і сорам*
*на вусны чужыя.*
*Прыйшлося ўбачыць*
*цень расстралянага*
*небасхілу*
*і цень*
*спаленай*
*ружы.*

*Мар'я Семянюк*



## СЛЁЗЫ

Людзі плачуць
па розных
прычынах.
Часам
няшчасце
вялікае...
Усё
можа быць...
Я бачыла
чалавека,
які
са шчасця
плакаў.
Дзіўна
плакаў.
Яго вочы
праз
шкляныя
слёзы
смяяліся.
І гэта
былі
вельмі
прыгожыя
слёзы.

*І. Баравік*

НА БЕЛЬСКАЙ ГАВОРЦЫ

## О зімі̇э 1972-73

Выхудло поле
почэрніэло.
дрэва
здаецьце грабачамі
нэбо роздэрут
часом дэнь похліпае
в плюс стопні С
і зноў
як воды у рот набраў
гузік з ім договорыпся
колі сніэг.

Сонце сядае
на голу зэмлю
поплюскаецце шчэ трохі
в чэрвоносьці
і нура пуод колдру
горызонта.

В ночіэ
прыходіт сніэг
в луожко
а рано
понімаю
што поле в жалобі.

Выхудло поле
почэрніело.

*З. Сачко*



# Пан Караль

У складзе спецыфічкаў упакоўка лякарстваў адбываецца ў памяшканні, што з адным брудным вакном. Стары Карусь валачэ пустыя скрыні, якія давозяць з аптэк, — і сварыцца. Ён не церпіць падгалых фармацэўтак у белых халатах, іх газетных уяўленняў наконт сельскай гаспадаркі і дамаганняў ад яго таннага мяса, недарагіх яек або масла за паўцаны. (У Каруся — гектары пад Беластокам).

Часамі Карусь не ў сілах упакоўваць і сварыцца. Тады называе сябе неграм, белым...

У суботу прыпхнуў на возіку ад транспартнікаў некалькі скрыняў, ухапіўся за верхнюю і бразнуў яе на казлы. Калі кароткім ударам далоні адбіў века, выскачылі з-пад яго на Каруся два пацукі. Ад таго ўсяго апамятаўся ён на стале! На высокім стале ля ваконца, праз якое соўваюць лякарствы для ўпакоўкі...

Адтуль яму, гладыятару, прасунулі кій, і Карусь узяўся за яго. Пацукі забегалі. Калі гакнуў кіем па адным з іх, той падскочыў на дыкту, што трымалі ў пераходзе фармацэўткі, патрупянелыя. Карусь біў то па пацуку, то па дыцке, то па чырванадоўгіх кіпцюрах фармацэўтак, якія завылі. Пацук запішчаў без памяці і пакаціўся, бы жмут шматак. Другі — — скакануў па-над дыткаю і каля вуха кіраўніка, што якраз падбег пад кій Каруся...

Карусь, з кіем, досыць спакойна глядзеў на канаючага звярка, на акрываўленага кіраўніка, на пакручаных фармацэўтак з перабітымі пальцамі, сінімі-сінімі!

Ад таго дня да Каруся пачалі адзывацца: пане Караль.

*Сакрат Яновіч*





*Выступленне беларускіх спартсменаў на Мінскім стадыёне «Дынама», прысвечанае юбілею.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# Святкаванне 50-год дзя ўтварэння СССР у Беларусі

Беларускі народ, як і ўсе савецкія народы, урачыста святкаваў 50-годдзе ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Утварэнне СССР было непасрэдным працягам справы Вялікага Кастрычніка, які адкрыў новую эру ў развіцці чалавецтва, практычным ажыццяўленнем ідэі вялікага Леніна аб дабравольным саюзе свабодных нацый.

«Паўвекавая гісторыя Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — гэта гісторыя ўзнікнення непарушнага адзінства і дружбы ўсіх народаў, аб'яднаўшыхся ў рамках Савецкай сацыялістычнай дзяржавы, — сказаў Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. І. Брэжнеў. — Гэта гісторыя небывалага росту і ўсебаковага развіцця дзяржавы, народжанай сацыялістычнай рэвалюцыяй і стаўшай сёння адной з самых магутных дзяржаў свету. Гэта — гісторыя ўзмужнення і сапраўднага росквіту эканамічнага, палітычнага і культурнага — усіх згуртаваных пад яго сцягам рэспублік, усіх насяляючых краіну нацый і народнасцей».

Вялікі плён і цудоўную сілу братэрскага супрацоўніцтва і непарушнай дружбы ў поўнай меры адчувае і Савецкая Беларусь, якая дабілася ў братэрскай сям'і народаў Савецкага Саюза выдатных поспехаў у сваім эканамічным, сацыяльным і культурным развіцці.

*Фота В. Казлова, Э. Трыгубовіча*



*Тыдзень літаратуры народаў СССР. Свята паэзіі на радзіме народнага паэта БССР Я. Коласа ў вёсцы Мікалаеўшчына Мінскай вобласці.*




*Напярэдадні юбілею — 50-годдзя ўтварэння СССР мінскія трактарабудаўнікі выпусцілі мільённы трактар.*




У ЗДАРОВЫМ ЦЕЛЕ ЗДАРОВЫ ДУХ

## ЦІ ЦУКАР УЗМАЦНЯЕ?

Усё часцей чуецца на свеце, што цукар можа выклікаць або спрыяць узнікненню шматлікіх захворванняў.

Адзін з старэйшых навуковых часопісаў сусветнай славы «Нэйчэр» падаў у апошнім часе цікавыя вынікі доследаў навукоўцаў у гэтай галіне.

Спажыццё цукру гвалтоўна ўзрастае. Калі ў Заходняй Еўропе ў пачатку 1700 г. адна асоба спажывала ў год у сярэднім 2 кг цукру, дык сёння — каля 50 кг. Трэба прытым адзначыць, што цукар складае 15—20 прац. усіх калорый, якія атрымлівае чалавек, а ў дзяцей, якія вельмі любяць цукеркі, пячэнне, салодкія напіткі, нават 50 прац. атрыманых калорый. А, як паказалі доследы, арганізму не ўсё роўна, ці пэўную колькасць калорый ён атрымае ў выглядзе цукру ці іншых вугляводаў.

Даведзена, што цукар надзвычай спрыяе паўнаце. Нованароджаныя дзеці распазнаюць смак салодкага адразу пасля нараджэння, і звычайна да кожнай стравы ім дадаюць цукар. Дзеці ў школьным узросце таксама вельмі любяць з'есці штораз «нешта салодкае», таму сярод іх так многа пульхных дзяцей.

У моладзі, якая не чысціць зубоў, сцверджана выразная залежнасць паміж колькасцю спажытага цукру і хваробай зубоў. Сітуацыю іх выратавала б сістэматычнае чышчэнне зубоў.

Здароўе пацыентаў з хранічнай нястраўнасцю значна палепшалася, калі на працягу некалькіх месяцаў яны абмяжоўвалі спажыццё цукру. Калі ж здаровым людзям у звычайнай дыеце замянялі крухмал цукрам, ужо праз два тыдні кіслотнасць іх жалудкаў узрастала ў сярэднім на 20 прац., а выдзяленне пепсіны на 200 прац. Вынікі гэтыя сведчаць аб тым, што цукар спрыяе ўзнікненню хранічнага катару жалудка, а можа нават і язвы жалудка ці дванаццаціперснай кішкі.

Сцверджана, што васпаленне скуры часцей сустракаецца ў людзей, якія спажываюць вялікую колькасць цукру. Дадаючы цукар да корму свіней, навукоўцы выклікалі ў іх васпаленне скуры.

А ў пацукоў, якім сістэматычна недадавалі бялка, замяняючы яго цукрам, была сцверджана невылячальная блізарукасць.

Цукар павышае таксама колькасць халестэрыну ў крыві. Такія доследы праводзіліся на пеўнях, якім да корму дадавалі цукар. Тлушч у хуткім часе займаў у іх 46 прац. унутранай сценкі аорты.

Пад уплывам дыеты, багатай цукрам, зніжаецца ўзровень інсуліну ў крыві, часта павялічваюцца ныркі і печань, у якой адкладаецца значная колькасць тлушчу.

Зразумела, кожнае з гэтых захворванняў мае цэлы ланцуг прычын, але адным з ачагоў у гэтым ланцугу з'яўляецца менавіта цукар.

На павестку дня, такім чынам, навукоўцы паставілі пытанне: ці цукар сапраўды ўзмацняе?

*Эскулап*




Праз паўгадзіны Альтэнкірх з Мартынавым выйшлі на край поля, дзе мінулым вечарам араў плугам селянін.

— Дзе ёсць селянін, — прамовіў Альтэнкірх, — там ёсць і вёска. А дзе вёска, там і гарэлка. — Цяпер Альтэнкірх быў у лепшым настроі, чым напярэдадні. «Вайтхазе нічога мне выпіць не прынясе, — разважаў ён. — Нават калі і скінулі там што-небудзь, ён ашукае мяне. Сам не ведаю, чаму, але мне ён не сімпатычны. Больш трымаецца кампаніі Франке і Будэра і, безумоўна, нацкоўвае іх на мяне. Але і без яго я знайду, што ў горла ўліць».

Калі яны абагнулі звіліну дарогі, перад іх вачыма раптам паўстала сялянская сяліба.

— Вось бачыце! — узрадаваўся Альтэнкірх. — Зараз мы арганізуем налёт. — Ён зняў з пляча аўтамат і прыціснуў яго да бока. На імгненне яго ахапіў страх, што на хутары маглі прытаіцца савецкія салдаты. Але ён адужаў яго. «Няма тут ніякіх ваенных, — сказаў сам сабе. — Яны важдаюцца з Грэльхамерам, а гэта ж за дваццаць кіламетраў адсюль. Тут я Шэры Воўк, і іншых ваўкоў паблізу няма».

— Вы забыліся пра небяспеку, — перасцярог Альтэнкірха Мартынаў, але той толькі засмяяўся.

Падышоўшы крыху бліжэй да сядзібы, яны ўбачылі сялянскую хату з маленькімі вокнамі, хлеў і павець на тонкіх слупах. У бок луга цягнуўся плот, а за хлявом узнімаліся густыя кароны дрэў. Людзей нідзе не было відаць, але ўсё гаварыла пра тое, што хата была абжытая — дахі хаты і хлява былі адрамантаваныя, шыбы вокнаў ззялі ў сонечных промнях.

— Калі зойдзем у хату, — павучаў Альтэнкірх, — папросім гарэлкі. Потым папросіце яек. Сам я ні слова не вымаўлю — хай думаюць што хочуць. Можа і не заўважаць, што я не рускі. Разумееце?

— Так, — адказаў Мартынаў.

Калі абодва былі ўжо ў некалькіх кроках ад сялібы, яны пачулі бляянне авечкі. Альтэнкірх прыспешыў крок і, падышоўшы да плота, пераскочыў цераз яго і кінуўся ва двор. Каля хлява ён убачыў курыцу, адчуў пах свежага гною. Заўважыўшы, што дзверы ў хату адчынены, кінуўся да іх.

Ускочыўшы ў кухню, ён у прыцемках не адразу разгледзеў жанчыну, якая стаяла ля стала. Ад нечаканасці жанчына абазвалася крыкам, і Альтэнкірх ціха сказаў Мартынаву, які дагнаў яго:

— Пачынайце!

Мартынаў паспешліва загаварыў па-руску:

— Слухайце і не пужайцеся: гэты чалавек фашыст. Не крычыце, дайце, калі ў вас ёсць некалькі яек і трохі гарэлкі. Як толькі мы пойдзем, бяжыце да першага афіцэра, скажыце, што савецкі старшы лейтэнант знаходзіцца ў немцаў, — Сяргей Максімавіч Мартынаў, зразумелі? Ён хоча выведаць, дзе хаваюцца фашысты, і скора сам прыйдзе са звесткамі. Дайце нам яек, хутчэй і не паднімайце шуму! Шнелер!

— Якія фашысты? — не разумела жанчына. — Дзе фашысты? — Яна бачыла перад сабой савецкага афіцэра, а побач з ім чалавека, вельмі падобнага на нямецкага фашыста. Жанчына не магла ўзяць да розуму, чаму савецкі чалавек і фашыст стаяць побач са зброяй у руках і не страляюць адзін у аднаго. Яна зразумела ўсё, што сказаў ёй Мартынаў, але да яе не даходзіў сэнс таго, што адбываецца.

— У нас няма часу, — зноў пачаў паспешліва тлумачыць Мартынаў. — Дайце нам парачку яек, а калі ёсць і гарэлкі. Аднак галоўнае — вы зараз жа павінны пайсці да якога-небудзь савецкага афіцэра і расказаць пра мяне. Маё імя Сяргей Максімавіч Мартынаў, разумееце? Я старшы лейтэнант з Тулы. Тут я разам з фашыстамі таму, што хачу выведаць, дзе хаваюцца іх галоўныя сілы. Вы павінны пра гэта...

— У чым справа? — перабіў яго Альтэнкірх.

— Я прашу ў яе яек і шнапсу, — адказаў Мартынаў. — Але яна гаворыць, што ў яе цяпер няма.

— Глупства! — зароў Альтэнкірх. — Навошта вы ўвесь час гаворыце ёй сваё імя? Зараз я пакажу вам, як гэта робіцца. — Ён ушчыльную падышоў да жанчыны і крыкнуў ёй проста ў твар:

— Яйка, ферштандэн? Яйка, ду панімай? Шнапс! Ферштэен, шнапс?

Жанчына адхіснулася і адступіла назад, але Альтэнкірх зрабіў крок наперад. Яна прыціснулася спіной да канта печы і прыкрыла твар рукой. Да яе зноў вярнуўся страх, у якім яна жыла ў гады акупацыі. Адчуўшы цвёрдае, халоднае дула аўтамата на баку, жанчына пранізліва ўскрыкнула, але Альтэнкірх, шырока ашчэрыўшы рот, крычаў ёй проста ў твар:

— Шнапс, ду панімай? Шнапс!

Раптам прагучаў стрэл — у руках Мартынава здрыгануўся аўтамат. Аль-

# ТРЫБУНА чытачоў

### МУЧАНІК

Ну, за што такія мукі,
Дрыжаць ногі, дрыжаць рукі...
То ж сапраўды бесталкова —
Кожны дзень пачаць аднова.

А у многіх так бывае,
Аб здароўі ён не дбае.
Думае як бы напіцца,
Каб на месяцы паваліцца.

На другі дзень зноў ад рана
Галава трасецца п'яна.
Сам такі, як з крыжа зняты,
Аж смяюцца куранты.

Жонка плача, наракае,
Што такога мужа мае.
Дзеці босы, голы плечы
І дравок няма да печы.

Да чаго ён дажывецца:
Малады, а ўвесь трасецца,
Не шануе ён нікога:
Ні старога, ні малога.

*Мікола Крайчук*
*Патока*




### ШПІРЫЁНЫ

Жыў калісьці ў нас шпірыён,
Не цяпрэў суполкі ён,
Для сябе жыў, свайго бруха...
Без жалю ўсім знік, як муха...
То ж падобных шпірыёнаў
Паміж люду ўсюды поўна.
Імя хоць іначай зваці,
Іх натура — адна маці.
Кожны з іх, як шпірыён —
Самалюбны, што то ён.
Ў ім сумлення ані-ні,
Як у гуся або свінні.
Каб набіць кішэнь ці бруха,
Ён назойлівы, як муха.
У кожным чыне й дзела родзе —
Думкі аб сваёй выгодзе.
На ўсе рукі ён дзялок,
На ўсе бакі абібок.
А к таму ж паўсюду знаны,
Нялюбы, непажаданы,
Людскі труцень — моль грамады.
З шпірыёнам няма рады,
Бо нахабнік — шпірыён
Знае, як сябе, закон.
Прыказка ж: закон, як дышла,
Дзе крунуў — туды і выйшла.
На жаль, гэтых шпірыёнаў
Ў свеце многа ёсць мільёнаў.
Расы розныя й плямёны
Плодзяць — родзяць шпірыёнаў.
Панад збытак іх у ЗША,
Вольная там іх душа.
Нат ў Тэксасе шпірыёны
Выдаюць свае законы:
Хто ўкакошыць прэзідэнта,
Гэткім і апека, і рэнта.
У нас шпірыёнам няма волі,
Але докукі даволі —
Нам ад іх а ім ад нас,
Верна слова.

*Дзядзька Квас*

тэнкірх паволі павярнуўся назад і спалохана ўставіў у Мартынава ўжо не звярыныя, але нейкія ашклянелыя вочы, потым схапіўся за грудзі, на міг замёр, пахіснуўся і грымнуў на падлогу.

Жанчына ўсё яшчэ нерухома стаяла ля печы, выставіўшы перад сабой рукі. Праз момант рукі яе ўпалі, цела ажыло. Яна нахілілася да забітага, і з твара яе паступова знік страх, уступіўшы месца нянавісці да ворага.

Разам з гаспадыняй Мартынаў аднёс цела да задняй сцяны хлява. Чорная перарывістая лінія абазначыла апошні шлях Альтэнкірха.

— Закапайце яго, — сказаў Мартынаў.

Калі яны, афіцэр і сялянка, стаялі ля трупа, Мартынаў яшчэ раз растлумачыў ёй, хто ён такі, як сюды трапіў, чаму застаўся з фашыстамі, і да каго ёй трэба ісці.

— Вы павінны зрабіць гэта неадкладна, — гаварыў ён. — Сёння ж пайдзіце да якога-небудзь афіцэра. У навакольных вёсках стаяць войскі і ўжо абавязкова ў вёсках, што на паўночны захад адсюль. Раскажыце пра ўсё, што тут адбылося і што я вам расказаў.

У знак згоды жанчына моўчкі паківала галавой.

Мартынаў падаў ёй руку і пакрочыў па той самай дарозе, па якой надоечы прыйшоў сюды з Альтэнкірхам. Перш чым павярнуць за выгін плота, ён азірнуўся і памахаў на развітанне рукой. Жанчына таксама махнула рукой.

*(Працяг будзе)*

## Патрэбны малочны бар

Саколка — павятовы цэнтр налічвае 14000 жыхароў. Няма таго дня, каб тут не пабывала пару соцень людзей з-паза горада. Хто да доктара, хто да нейкага ўжэнду. У людзей шмат розных спраў. І яны ўсё робяць бягом. Ну, а калі трэба падсілкавацца? Пабудавалі ў Саколцы прыгожы сучасны рэстаран. Пабудавалі вялікі бар з гарэлкаю. Ёсць дзе выпіць і закусіць. Ну, але каб было дзе з'есці на хаду нейкі малочны суп ці выпіць шклянку гарачага малака, дык аб гэтым тут не было каму падумаць. Ці таму, што малочныя стравы найтаннейшыя?

А. С.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Мне 17 год. Люблю песні і фільмы, збіраю маскоткі і здымкі акцёраў і песняроў (польскіх і замежных). Ахвотна падыскутую на тэму моладзі. Ведаю польскую і рускую мовы, магла б перапісвацца з сябрамі з Савецкага Саюза. Мой адрас:
Maryla Urynowicz, wieś i p-ta Nowoberezowo, pow. Hajnówka, woj. Białystok.




*Дарагое «Сэрцайка!»*

Жыву я на вёсцы. У бацькоў я адзін і разам з імі працую на гаспадарцы. Закончыў я толькі сем класаў. Далей вучыцца не пайшоў, бо і навука нялёгка мне прыходзілася, ды і найбольш за ўсё цікавіла мяне гаспадарка. А гаспадарка ў нас даволі добрая, нядаўна пабудавалі новы мураваны дом і, здавалася б, чаго яшчэ трэба да шчасця. Але вось мне ўжо 25 год — пара б ажаніцца, але прызнаюся, не ўдаецца мне гэта. Праўда, не прыгажун я, ды і на забаву хаджу я нячаста. Да кампаніі таксама мяне не цягне. Падабалася мне адна дзяўчына з нашай вёскі. Час ад часу заходзіў я да яе. Але яна тады яшчэ вучылася ў школе. А калі закончыла школу, пайшла працаваць у горад, а неўзабаве і замуж выйшла. Ездзіў я ў сваты да дзяўчыны з суседняй вёскі. Згадзілася за мяне выйсці замуж, але калі ўжо пачалі гаварыць канкрэтна пра вяселле і «таргавацца» за пасаг, дзяўчына знервавалася і сказала, што не пойдзе замуж. Ну і па ўсім. Потым яшчэ я быў у сватах, ужо ў далейшай вёсцы. І зноў падобна скончылася. Праўда, пра пасаг мы ізноў зганулі, бо ж гэта таксама важна. Дзяўчына сказала, што падумае і дасць адказ. Праз нейкі час адказ я атрымаў, але адмоўны. Так я ўжо больш і не ездзіў. Бацькі наганяюць, каб жаніўся, але як жа, «Сэрцайка», калі ніяк не ўдаецца. Мо ты мне нейк паможаш. За параду буду вельмі ўдзячны.

*Міша з Гайнаўшчыны*

Міша! Скажу табе адкрыта — сам ты ў гэтым вінаваты. Як жа ты паступаеш?! Выглядае на тое, што табе больш патрэбны пасаг, чым жонка. Не ўяўляю сабе, як можна ажаніцца, заехаўшы да дзяўчыны, якую бачыш ты першы раз і яна цябе таксама. Цяжка, каб з першага погляду спадабалася яна табе, а ты ёй. Дзяўчына і хлапец перш за ўсё павінны добра пазнаць і пакахаць адзін другога, а тады гаварыць аб жаніцьбе. А багацце? Яно перад вамі. Добра і згодна жывучы, усё нажывеце. Пасагі ўжо даўно аджылі свой век, і цяпер сорамна аб іх успамінаць. Што ты не прыгажун? Не пераймайся! Не толькі прыгажуны жэняцца. Як найбольш старайся бываць у кампаніі, на забавах. Ды не толькі ў сваёй вёсцы. Хлопцы ж ездзяць на забавы і ў іншыя вёскі. Пры гэтым паводзь сябе свабодна і смела, а пабачыш, дзяўчаты пачнуць за табой аглядацца, і напэўна нейкая ўпадзе табе ў вока.

Гэтага і жадае табе *«Сэрцайка»*




## ВУЧНЁЎСКАЯ СЕСІЯ

У першай палове сакавіка ў Гайнаўскім беларускім ліцэі адбылася папулярна-навуковая сесія, якая прысвячалася святкаванню 500-ай гадавіны з дня нараджэння Мікалая Каперніка. Былі праслуханы даклады на тэмы: «Каперніканская эпоха», «Жыццёвы і творчы шлях М. Каперніка», «М. Капернік і яго навуковая дзейнасць» і «Вялікае значэнне навукі М. Каперніка». Падрыхтавалі іх пад кірункам мгр Аляксея Сільвесюка ліцэісты: Ліда Андрэюк (вуч. кл. IV), Зіна Лукша (кл. III), Янка Сапежка (кл. III) і Валянціна Філіманюк (кл. III). Вучнёўскую сесію закончыла мастацкая частка ў выкананні школьнай моладзі.

*М. Цялушэцкі,*
*Гайнаўскі беларускі ліцэй*




ПЫТАННЕ: Памёршы ў 1960 годзе селянін пакінуў гаспадарку звыш 10 га. У той час яго жонка ва ўзросце 63 гады, сын і дачка жылі ў горадзе. У 1965 годзе дачка здала гаспадарку дзяржаве, пакідаючы сабе палавіну гектара з будынкамі і прысядзібным участкам. Каму тут прыслугоўвае права на спадчыну?

АДКАЗ: Права на спадчыну сельскай гаспадаркі прыслугоўвае ў гэтым выпадку толькі жонцы памершага, якая ў разуменні закону захавала на яе права як няздольная да працы. Сын, які жыве ў горадзе, атрымаць у спадчыне сельскую гаспадарку не можа. Дачка, хоць знаходзіцца цяпер на гаспадарцы, права на гаспадарку не мае, бо ў часе смерці гаспадара на гаспадарцы не працавала, а толькі гэта давала ёй права да наследавання сельскай гаспадаркі. Таму ў гэтым выпадку суд сцвердзіць, што права на сельскую гаспадарку прыслугоўвае толькі жонцы памершага.

Паколькі, аднак, гаспадаркай ніхто, апрача дачкі памершага не цікавіўся, а дачка карысталася з часткі, не перададзенай дзяржаве, як уласнік, можа яна атрымаць ад прэзідыума павятовай рады нарадовай рашэнне аб набыцці ўласнасці гаспадаркі на аснове закону з 26.X. 1971 г. аб урэгуляванні ўласнасці сельскіх гаспадарак.

## Яго ўсе ведаюць

Рошчанка Ёнікій, с. Юстына, з Дашаў Гайнаўскага павету гаспадарыць на 12 гектарах зямлі (2 гектары IV класа, рэшта — V і VI). Збірае ён у сярэднім 26 цэнтнераў збожжа з гектара. Прымяняе на гектар 130 кг штучнага ўгнаення. Гадуе (з маладняком) 7 штук быдла. Кантрактуе малако. У 1972 г. здаў 9.000 літраў. Гадуе 16 свіней. Мае таксама кабылу і здаровага каня. У вёсцы яго шануюць. Ён ахвотна дзеліцца сваім вопытам з іншымі гаспадарамі. А ў яго ёсць што перадаць іншым. Апрача вышэй пералічаных гаспадарчых дасягненняў, ён пабудаваў сучасную абору, якая таксама выклікае ў вёсцы цікавасць.



*Рошчанка Ёнікій, яго конь і новая абора.*
*Тэкст і фота Мікалая Корха*




■ 10.III.73 г. згарэў стары жылы дом Марыі Амельянюк (64 год, удава) з Сямяціч. Вартасць каля 40 000 зл.

■ 11.III.73 г. згарэў часткова гаспадарчы будынак Мікалая Дразда з Міклашэва Гайнаўскага павету. Страты каля 10.000 зл.

■ 10.III. 73 г. згарэла стадола Андрэя Габрылеўскага з Трывежы Гайнаўскага павету. Вартасць яе каля 80 000 зл.




*Янка Зданоўскі.* Верш «Іду» цікавы. Надрукуем.

*Міраслаў Бусловіч, Аўгустова.* «Вясну» надрукуем.

*Святлана, Махнатае.* Інфармацыя добрая, але друкаваць не будзем, бо ананімная. «Святлана» гэта яшчэ нам пакуль нічога не гаворыць. Можна падпісваць псеўданімам, але трэба тады падаць да ведама рэдакцыі і сваё сапраўднае імя і прозвішча (у вас жа яны бадай ёсць). Верш тым больш не надрукуем, бо ім можна пакрыўдзіць людзей, пра якіх пішаце. Абражаць (нават у вершы) нікога нельга.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Dziewczyna z walizką" (włoski), 3—4. „Lekcja odwagi" (czeski), 5—6, „Ktoś za drzwiami" (franc.) 7—8.

**Нараўка**
„Agnieszka 46" (polski), „Don Gabriel" (polski), 4—8.

**Нарва**
„Polonez Ogińskiego" (radz.), „Ucieczka w milczenie" (NRD), 4—8.

**Чыжы**
„Ballada o Cable u Hugue u" (USA), „Zdobywcy nieba" (radz.), 4—8.

**Дубічы Царкоўныя**
„Życie rodzinne" (polski), „Sprawa trzynastu" (radz.), 4—8.

**Арэшкава**
„Gangsterzy i filantropi" (polski), „Ostatnia gra Karima" (radz.), 7—8.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Trup w każdej szafie" (czeski), „Bajka o Mrozie Czarodzieju" (radz.), 4—8.

**Орля**
„Dzikie dziecko" (franc.), „Dawid Coppefield" (angl.) 4—8.

**Райск**
„12 krzeseł" (radz.), „Perła w koronie" (polski), 4—8.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„Agnieszka 46" (polski), „Don Gabriel" (polski), 4—8.

**Янаў**
„150 na godzinę" (polski), 4—8.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Niezawodni przyjaciele" (rumuński), 3—4. „Znicz olimpijski" (polski), 5—6. „Wujaszek Wania" (radz.), 7—8.

**Мельнік**
„Cierpienia młodego Bohaczka" (czeski), 3—4. „Dziewczyna inna niż wszystkie" (czeski), 5—6. „Szczęście Anny" (radz.), 7—8.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Woda życia" (radz.), „Dziewczyna inna niż wszystkie" (czeski), 4—8.

**Новы Двор**
„Ballada o Cable u Hugue u" (USA), „Siedem dziewcząt kaprala Zbrujewa" (radz.), 4—8.

Ніва

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł., półrocznie: 14,40 zł, kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty na prenumeratę indywidualną dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch" Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40%.

BZGraf. Nakład 8101 K-1

# Балада пра чорта

I здарыцца ж трэба няшчасцю-бядзе
На роўнай дарозе юначай, —
Хлапец у балотнай і бруднай вадзе
Кашлатага чорта ўбачыў.

— Я знаю, ты йдзеш да каханкі якраз...
Чакае яна каля яру.
I трапіўся ты ў падыходзячы час —
Шукаю для багны ахвяру.

Даю табе ўмову: дзяўчыну забыць
Ці выпіць са мною — я прагну.
Не ўздумай хітрыць і што-небудзь рабіць,
Інакш — затапчу цябе ў багну.

I чорт велізарную бутлю прыцёг,
Хлапцу налівае паўкварты.
I селі яны, выпіваюць удвух, —
Хлапец захмялеў не на жарты...

Хлапец быў бязвольны, баяўся ўсяго,
Кашлатаму чорту скарыўся.
I ад пачастунку у чорта таго
Зусім на каханку забыўся.

А чорт-валацуга і сёння жыве
I бутлю той спакушае.
Хлапцоў і мужчын ён на чарку заве,
Умову сваю выстаўляе.

Мо хто не пагодзіцца сёння са мной?
I скажа — я выдумаць мусіў.
А можа і так. Ды параю адно:
Глядзіце, каб чорт не спакусіў.

*Алесь Ставер*



*— Шырэй пашчу, а то ніхто не паверыць!*

# НІЎКА



*— Уяўляеш: сукенка сіняя, пояс зялёны, капялюш жоўты, карункі галубыя...*

### ДОБРА

— Якая гарачыня, — кажа асуджаны кату, які вядзе яго на шыбеніцу.

— Так, вам добра, а як мне? У такую гарачыню давядзецца вяртацца назад!

### ГУМАР З...

### КАГО ЛАЯЎ

Парабак выкідаў з хлява, дзе стаяў бык, гной. Стаміўся. Абапёршыся аб вілы, ён закурыў. У гэты час у хлеў заглянуў панскі наглядчык. Убачыўшы, што парабак стаіць, ён накінуўся на яго:

— А ты гультай, дарма харчы толькі ясі...

Парабак змоўчаў. Тады наглядчык, махаючы кулаком пад самым носам у парабка, пачаў пагражаць:

— Ты што ж гэта, хлеў захацеў спаліць... Вось я табе зараз як урэжу...

Гляну́ў коса парабак на наглядчыка, прыўзняў вілы... Наглядчык з перапуду як і не быў у хляве... Парабак пачаў лаяцца:

— Ах ты, быдла рагатае, храпа твая паганая... Вось як апераж у віламі.

У гэты момант у дзвярах зноў паказаўся наглядчык.

— Ты каго ж гэта лаеш? — завішчаў ён.

— Каго ж? — усміхнуўшыся, перапытаў парабак і адказаў: — Быка. Быка. Быдла рагатае...

### ДА ЧАГО ДАЙШЛІ

У карсіканскім гарадку на кірмашнай плошчы мясцовы свяшчэннік, расхвальваўшыся, спрачаецца з нейкай прыхаджанкай. Урэшце ён крычыць:

— Вы проста дурная!

Прыхаджанка ўзнімае рукі ў неба і заяўляе:

— Божа, да чаго мы дайшлі, калі нават вы не захоўваеце прафесіянальных тайнаў!



*Самаўлюблёнасць.*



*...Ён без цытаты не абыходзіўся — нават уласныя фразы браў у двукоссі.*

*...Пра яго гаварылі: «Хоць і адмоўная, але велічыня».*

*З венгерскага гумару*

## ДЫЯЛАГ

— Вы мяне клікалі, таварыш дырэктар? Слухаю вас.

— Сядайце, Пірыке. Я павінен вам сёе-тое паведаміць.

— Я так і думала. У чым справа?

— Вы ведаеце, на працягу цэлага месяца мы праводзілі ў нашай установе розныя пробы, вымярэнні з дапамогай камп'ютэраў, спецыяльных апаратаў і гэтак далей.

— Ведаю.

— У выніку гэтых вымярэнняў было ўстаноўлена, што нашы супрацоўнікі значную частку часу трацяць на работу.

— Праўда? Ніколі не падумала!

— На жаль, гэта так! Вось перада мной зводка аб тым, як праводзіце час на рабоце вы, Пірыке. З васьмі гадзін рабочага часу сем працэнтаў у вас прыпадае на спазненне, адзінаццаць працэнтаў на размовы па тэлефону, шаснаццаць працэнтаў — на распіванне кавы, дваццаць на балбатню, васемнаццаць працэнтаў — на прабыванне ў туалеце і чатыры на чытанне газет. Усё гэта складае семдзесят шэсць працэнтаў.

— Вы мяне азадачылі, таварыш дырэктар.

— Чым менавіта?

— На што ж у мяне прыпадаюць астатнія дваццаць чатыры працэнты?

*Ласла Табі*



### ЦІКАВА

У невялікім амерыканскім гарадку хірург мясцовага шпіталя пытаецца ў дырэктара аўтамабільнага магазіна:

— Колькі вы прадалі матацыклаў у гэтым месяцы?

— Дзвесце штук.

— Цікава, куды ж дзеліся яшчэ трое?

*У БАРАЦЬБЕ ЗА ЦІШЫНЮ*



*Галоўнае — асцярога!*

### ЦЯЖКАВАТА БЫЛО

Аднойчы сустрэліся двое прыяцеляў — Васіль і Іван.

Вось Васіль і пытае Івана:

— Чаму ты так доўга спіш?

— Ды будзільнік сапсаваўся, — адказаў Іван.

— А ты з пеўнем уставай, — параіў Васіль.

Праз месяц зноў сустрэліся:

— Ну, як у цябе справы? — пытае Васіль.

— Цяпер усё ў парадку. Але спачатку цяжкавата было прывучыць пеўня спаць да абеду.

### АПРАЎДАЎСЯ

Лае маці малога сына за тое, што абутак вымазаў у гразі, ды й павучае, гледзячы ў вакно:

— Вось сабака пабег і то гразь абмінае.

А сын адказвае:

— Дык ён жа босы.

### МІНІБАЙКІ

### БЕЗУПЫННЫ ПЕРАПЫНАК

Мядзведзь прывёз у магазін тавар. Лісічка таблічку павесіла: «Перапынак». Тавар прымалі: лісічцы курачка, мядзведзю — курачка. Кончылі снедаць, таблічку павесілі: «Перапынак на абед». Лісічцы — курачка, мядзведзю — курачка. Кончылі абедаць, камісія прыехала. Таблічку павесілі: «Перапынак на перападлік». Лісічцы — курачка, мядзведзю — курачка, камісіі — дзве курачкі. Кончылі вячэраць — перапынак на мараль: як працаваць, дык у іх — перапынак, а як красці, дык — безупынна?

*М. Азаў, У. Ціхвінскі*

### Галаваломка



На рысунку футбольная каманда ў момант, калі адзін з яе ігракоў забіў гол у вароты праціўніка. Усе футбалісты назначаны пачатковымі літарамі лацінскага алфавіта, апрача таго, ім прысвоены нумары ад 1 да 11.

Які футбаліст забіў гол? Вядома, што ў яго нумар «7», а нумары футбалістаў па кожнай простай лініі ў суме складаюць 13.

# КУРЁЗЫ

### АПОШНІЯ ТРЫНАЦЦАЦЬ КІЛАМЕТРАЎ

Жыхары аўстрыйскага горада Клагенфурта сталі нядаўна сведкамі своеасаблівага подзвігу, які здзейсніў голуб.

Вяртаючыся з чарговага паштовага палёту, птушка за трынаццаць кіламетраў ад горада пашкодзіла сабе крыло. Пасля некалькіх няўдалых спроб падняцца ў паветра голуб вырашыў працягваць шлях пешшу. З вялікім спазненнем, зусім знясілены крылаты паштальён усё ж даставіў пісьмо адрасату.

### НЕ БЛЫТАЙ БЫКА З БЕГЕМОТАМ

Недастатковае веданне мясцовай фауны ледзь не каштавала жыцця некалькім маладым самалійцам, якія прыбылі з пустэльных раёнаў поўначы краіны на сельскагаспадарчую ферму на рацэ Шэбелі.

Юнакі, якія ніколі раней не сустракалі бегемотаў, прынялі гэтых жывёлін за быкоў, што купаліся, і наблізіліся да іх, каб лепш разгледзець. Бегемоты, якія звычайна мірна паводзяць сябе, на гэты раз праявілі незразумелую агрэсіўнасць. Яны напалі на цікаўных юнакоў і нанеслі ім цяжкія раненні і калецтвы.

### НАРЭШЦЕ

Нядаўна многія англійскія газеты змясцілі кароткую, але досыць красамоўную інфармацыю. Аказваецца наследнік англійскага трона ўпершыню за ўсю гісторыю Вялікабрытаніі атрымаў вышэйшую адукацыю. Чытачам паведамілі аб тым, што прынц Чарльз скончыў гістарычнае аддзяленне Кембрыджскага універсітэта.




*Не стой убаку: збоку ты відней.*